


# DISTRICTUS

# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 4 (29) КРАСАВІК 2004 г.


**Кастусь Шыдлоўскі**

# ВЯЛІКАЯ ВАДА – 2004 ГОД



Мінулая зіма заломніцца абільнымі снегападамі. Таўшчыня снежнага покрыва набліжалася да рэкордных адзнак з часу метэаназіранняў. Цёплыя веснавыя дні ў сакавіку выклікалі інтэнсіўнае таянне снегу і значны ўздым вады ў рэках. Паводка ў 2004 г. належыць да з'яў, якія назіраюцца некалькі разоў у стагоддзі. У мінулым, XX ст. два веснавых разлівы мелі катастрафічныя наступствы (паводкі 1931 і 1956 гадоў). Вада тады затапіла сотні жылых і гаспадарчых пабудоў, нанесла значныя страты сельскай гаспадарцы, дарогам і г.д.

У гэтым годзе вада прыпынілася каля сялянскіх сяліб, але вялікай шкоды не нарабіла. Уражвалі краявіды на Казяншчыне – дзе далёка за берагі выйшлі Дзісна, Дрысвятка, Бірвіта. Веснавыя воды месцамі разліліся па нізінах на сотні метраў.

На поўначы Браслаўшчыны значна падняўся ўзровень Заходняй Дзвіны і ніжняга цячэння Друйкі. Пік узроўня вады прыйшоўся на 23 сакавіка. Тады яшчэ ніхто не ведаў, як паводзе сябе вада далей. Разам з Аляксандрам Панцялейкам у пятніцу 2 красавіка накіроўваемся ў Друю, каб на ўласныя вочы ўбачыць мястэчка падчас вялікай вады. На такое падарожжа нас намаўляў настаўнік Друйскай школы, кіраўнік школьных краязнаўцаў Міхаіл Ставіцкі.

З першага погляду вялікая вада ў Друі выглядае не так эфектна, як на Казяншчыне. У адрозненне ад поўдня Браслаўшчыны рэчышчы тут глыбокія, з высокімі стромкімі берагамі. Вада падыйшла да краёў рэчышча, але не выплеснулася за яго межы, за выключэннем асобных найбольш паніжаных участкаў – дзе затапіла агароды, парнікі, клады дроў. Мясцовыя жыхары расказвалі, што такі ўзровень не параўнаць з паводкамі 1931 і 1956 гадоў. Тады вада заліла большую частку Друі. Адзін са старажылаў згадаў, як сам катаўся па вуліцах мястэчка на лодцы, на лодцы плавалі да Дома культуры і лодкі прычаплялі да ганка будынку. Падчас танцаў у зале пад дошкамі хлюпала вада. Але хіба гэта для моладзі перашкода?.. Аднаго разу разліў, падобны на сёлетні, здарыўся ў 60-я гады на пачатку лета. Яго выклікалі інтэнсіўныя дажджы.

Стаім на беразе Дзвіны. Ля самых ног імкліва нясецца шырокі мутны, карычневага колеру, паток. Не верыцца, што пры звычайным узроўні вада будзе струменіць недзе далёка ўнізе, а ўлетку, каб не дзяржаўная мяжа, у асобных месцах можна было б уброд перайсці ў латвійскі пасёлак Піедрую. Адметнае месца пры ўпадзенні Друйкі ў Заходнюю Дзвіну. Тут на высокім пагорку ўзнікла Друя, размяшчаліся яе старажытныя замкавыя ўмацаванні. Цяпер пагорак амаль не вылучаецца вышынёй: вышыню скрадвае высокая вада. Ля самага мыса ўстаноўлены гістарычны Барысаў камень з надпісам XII ст. Над камнем – амаль двухметровая тоўшча вады. Над рачнымі хвалямі ўздымаецца толькі верхняя частка помніка ахвярам лўрэйскага гета. І Барысаў камень, і помнік знаходзяцца на беразе Друйкі. Вялікая вада ператварыла яе ў паўнаводную са спакойным цячэннем раку, якая ленавата пляскочацца ля падмуркаў друйскіх хат. Сонца маляўніча блікуе на рачных хвалях. Прыгожа і зусім няма адчування пагрозы. Амаль не адчуваецца трывогі і сярод жыхароў – у пятніцу вада пачала спадаць.

На відэа і фота фіксуем краявіды Друі падчас вялікай вады. Праз тыдзень-другі яны стануць ужо гісторыяй. Як з'яўляюцца для нас гісторыяй матэрыялы пра паводкі 1931 і 1956 гадоў.



Паводка на р.Дзісна ля в.Бучаны



Друя. Від на р.Заходняя Дзвіна са званіцы касцёла. *Фота М.Ставіцкага*

# ВЕСТКІ

2 красавіка прайшла чарговая інтэлектуальная гульня ў клубе "Санет" Цэнтра дзіцячай творчасці. Тэма гульні "Гістарычная і прыродная спадчына Браслаўшчыны". У ёй удзельнічалі каманды сярэдніх і базавых школ раёна. Пытанні гульні былі размеркаваны па наступных тэмах: "Гісторыя Браслаўшчыны", "Падзеі Вялікай Айчыннай вайны", "Славутыя землякі", "Традыцыі і майстэрства", "Прыродная спадчына". На заканчэнне гульні разгадвалі крыжаванку. Перамогу святкавалі каманды СШ № 1 і гімназіі. Трэба адзначыць вялікі інтарэс маладых людзей да мінулага. Хаця пытанні былі складанымі, вучні даволі паспяхова з імі справіліся.



14 красавіка адбылося святочнае Велікоднае паседжанне сяброў народнага калектыва – Клуба майстроў і мастакоў "Ля возера", які дзейнічае пры Браслаўскім музейным аб'яднанні. Прысутныя азнаёміліся з традыцыямі фарбавання яск, сімволікай узораў, дзяліліся гісторыямі пра святкаванне Вялікадня ў розныя перыяды гісторыі. Былі прадстаўлены традыцыйныя святочныя стравы, прагучалі велікодныя песні, запісаныя сярод каталікоў, праваслаўных і старавераў Браслаўшчыны.



15 красавіка на базе Браслаўскай гімназіі адбылася штогадовая, трэцяя па ліку, навукова-практычная канферэнцыя школьнікаў. Было прадстаўлена больш за 30 прац, падрыхтаваных вучнямі школ раёна. Адбыліся паседжанні на шасці секцыях: беларуская і руская мовы, англійская мова, гісторыя і геаграфія, біялогія і экалогія, інфарматыка, фізіка і астраномія. Найбольшая колькасць рэфератаў – 11 – была заслухана на секцыі гісторыі і геаграфіі. Сярод найбольш цікавых тэм: "Халакост на Браслаўшчыне", "Валуны як крыніца ведаў аб гісторыі Браслаўшчыны", "Вузкакалейка Друя – Дукштас", "Вытокі геаграфічных назваў Браслаўшчыны".

Журы адзначыла найлепшыя працы, якія будуць прадстаўляць раён на абласным і нацыянальным конкурсах.

KLĘSKA POWODZI w BRASŁAWSZCZYŹNIE

DRUJA POD WODĄ—OSIEMSET RODZIN BEZ DACHU NAD GŁOWĄ—INSPEKCJA P. WOJEWODY KIRTIKLISA

Wobec alarmujących raportów, jakie nadchodziły z miasteczka Drui powiatu brasławskiego o zastraszających spustoszeniach, poczynionych przez powódź, p. woj. Kirtiklis w towarzystwie naczelnika wydziału z Min. Pracy i Opieki Społ. p. Grunwalda, naczelnika wydziału p. Jocza i pos. Pimonowa w dniu 28 b.m. rano wyjechał do Drui, aby przekonać się osobiście o rozmiarach klęski.

Większa część miasta stoi pod wo-



Фотаздымак з музея Друйскай СШ

## Катастрафічная паводка на Браслаўшчыне.

**Друя пад вадой - Васемсот сем'яў без даху над галавой - Інспекцыйная паездка ваяводы Кірцікліса**

З мястэчка Друя Браслаўскага павета прыходзілі трывожныя данясенні аб страшных спусташэннях, якія прынесла паводка і таму ваявода Кірцікліс ў суправаджэнні начальніка аддзела Міністэрства працы і грамадскай апекі Грунвальда, начальніка аддзела Ёча і пасла Піманава 28 бягучага месяца (*красавіка – рэд.*) раніцай выехаў у Друю, каб асабіста пераканацца ў маштабах стыхійнага бедства.

Большая частка горада знаходзіцца пад вадой. 264 дамы літаральна цалкам затоплены. Эвакуіравана 1657 чалавек. Гэта найбяднейшыя жыхары, якія засялялі прыбярэжжа. Вада заліла 2 царквы, шэраг будынкаў чыгуначнай станцыі, паліцэйскі ўчастак, гміннае праўленне, паштовую кантору, электрагенератар, заставы памежнай аховы і іншае.

Мясцовыя жыхары падалі ваяводзе ёмістае прашэнне з просьбай аб дапамозе і выдзяленні дадатковых ільгот для ахвяр паводкі. Ваявода абяцаў значную дапамогу дзяржавы.

Увечары таго ж дня ваявода правёў канферэнцыю пры ўдзеле мясцовай грамады. Яна прайшла ў адным з дамоў, які не быў заліты. Староста браслаўскі Янушкевіч абмаляваў памеры паводкі і разбурэнні на ўсёй тэрыторыі павета.

Апрача мястэчка Друя значна пацярпела Відзская гміна і мястэчка Казяны, дзе большасць паселішчаў стаіць пад вадой. Падсумоўваючы патрэбы павета, староста паведаміў што 800 сем'яў дзесьці трэба размясціць мінімум на тры тыдні, а для гэтага спатрэбіцца каля 25000 злотых.

Ваявода Карцікліс у сваім выступленні адзначыў, што пры паступленні звестак аб паводцы на Віленшчыне і страшных яе наступствах урад краіны энергічна паспяшыў на дапамогу насельніцтву, а таксама грамадскаму камітэту, які з'явіўся ў Вільні. Іншыя ваяводы абвясцілі аб сваёй дапамозе. Ваявода падкрэсліў, што ў акцыі выратавання павінны быць улічаны тры галоўныя моманты: забеспячэнне харчаваннем, прадастаўленне даху і прадухіленне эпідэміі тыфу, якая пашыраецца. Апошні момант найбольш небяспечны...

Са свайго боку ваявода паабяцаў аказанне дапамогі як лекарскай, так і матэрыяльнай. Апрача тысячы злотых, дасланых некалькі дзён таму, ваявода ўручыў старосце тры тысячы злотых для ахвяр паводкі ў Друі. Дапаможныя сумы будуць паступаць адразу пасля завяршэння візіта. На заканчэнне ваявода горача падзякаваў мясцоваму грамадскаму камітэту, аддзелу памежнікаў, пажарнай ахове, грамадскай арганізацыі за энергічна праведзеную працу па выратаванню людзей, і за далейшы яе працяг.

Па просьбе ваяводы мясцовыя аддзелы памежнай аховы абавязаліся ўстанавіць у некалькіх кропках паселішча палявыя кухні, якія будуць выдаваць сілкаванне жыхарам. Ваявода наведаў памяшканне пажарнай аховы, дзе знайшлі прытулак шмат сем'яў эвакуіраваных гараджан і запэўніў людзей, што яны могуць разлічваць на хуткую дапамогу з боку ўрада.

Słowo (Вільня) 1931 г., 30 красавіка



**Фотаздымкі з музея Друйскай СШ. На сцяне царквы і зараз можна ўбачыць адзнаку вышэйшага ўзроўню паводкі 1931 г.**

*Некалькі гадоў таму Юзаф Далецкі з польскага горада Жэшува, вялікі патрыёт Браслаўшчыны і даўні сябар музея, даслаў матэрыял, прысвечаны вядомаму ў Польшчы абразу Маці Божай Пераможнай Казельскай, які быў выразаны ў дрэве адным з вязняў лагера ў Катыні. Нагадаем, што Катынь, мясцовасць пад Смаленскам, як і Казельск, горад у Калужскай вобласці, сталі месцамі ўтрымання ў няволі і найбольш масавых расстрэлаў афіцэраў польскай арміі, арганізаваных сталінскім рэжымам. Сярод ахвяр Катыні і Казельска ёсць і нараджэнцы Браслаўшчыны. Юзаф Далецкі звяртае ўвагу, што аўтар абраза Тадэвуш Зялінскі звязаны з Браславам. Ніжэй друкуем артыкул Ю.Далецкага.*



# З КАЗЕЛЬСКА ДА ЛОНДАНА

## (Вядомая і не вельмі вядомая гісторыя і вандраванні абраза-барэльефа Маці Божай Пераможнай Казельскай, а таксама браслаўская сцежка яго стваральніка)

Хацеў бы вярнуцца да адной з падзей шостай пілігрымкі Святога Айца Яна Паўла II у Польшчу, якая адбылася ў 1997 годзе. У хроніцы візіту ёсць запіс ад 8 чэрвеня, зроблены ў Кракаве: "... Разлеглыя кракаўскія лугі пераўтварыліся ў гіганцкую чырвоную катэдру, якую запоўніла болей чым паўтарамільённая маса вернікаў..." Далей адзначаецца, што падчас святой імшы Ян Павел II залічыў блаславёную Каралеву Ядвігу ў лік святых. Пасля святой камуніі Папа асвяціў кароны для некалькіх абразоў. Сярод іх была і карона для абраза Маці Божай Пераможнай Казельскай. Папа налажыў карону на гэты абраз, які з'яўляецца патронкай II-га корпуса эмігрантаў і пацярпелых за свабоду.

"Гэты барэльеф, – адзначыў Папа, – выкананы ў лагеры для палонных, з якога амаль усе загінулі ў Катыні, нагадвае аб трагічным эпізодзе апошняй вайны." Пасля святой імшы ў развітальным звароце Ян Павел II у прыватнасці сказаў: "... Вітаю пілігрымаў, якія прыбылі сюды, каб удзельнічаць у каранацыі абраза Маці Божай Казельскай... Яна, Марыя, спадарожнічала жаўнерам польскага войска на іх баявым шляху, а з часу заканчэння вайны асаблівай пашанай карыстаецца ў Лондане. Няхай жа ўганараванне Марыі ў гэтым Казельскім адлюстраванні не толькі згадвае аб мінулым, але і ўзмацняе веру сучаснай Палоніі і эміграцыі..."

Мала хто ведае, толькі хіба асобныя, што стваральнікам абраза-барэльефа Маці Божай Пераможнай Казельскай быў Тадэвуш Зялінскі, мастак-разьбяр, выкладчык малюнка і ручной працы прыватнай гімназіі Таварыства сярэдняй школы ў Браславе, і да таго падпаручнік рэзервіст Войска Польскага. Т.Зялінскі быў мабілізаваны ў войска перад выбухам другой сусветнай вайны ў 1939 годзе. Пайшоў на службу з Браслава, прымаў удзел у вераснёўскай кампаніі, пасля савецкай агрэсіі і эвакуацыі ці ў Літву, ці ў Латвію, быў інтэрніраваны ў лагер. Калі балтыйскія краіны былі анексаваны Савецкім Саюзам у чэрвені 1940 года, разам з іншымі польскімі афіцэрамі трапіў у лагер ваеннапалонных у Казельску. У гэтым лагеры раней утрымлівалі польскіх афіцэраў, захопленых у палон падчас вераснёўскай савецкай агрэсіі 1939 года, якія ўвесну 1940 года былі забіты НКУС.

У цяжкіх лагерных умовах, дзе між іншым забараняліся ўсялякія рэлігійныя абрады, а парушэнні сурова караліся лагернымі ўладамі, нарадзілася задумка стварыць абраз Найсвяцейшай Марыі Панны Пераможнай з Казельска.

Цяпер коратка пра лёс аўтара абраза. Тадэвуш Зялінскі ў 1941-1945 гадах быў жаўнерам польскай арміі ў СССР, пазней Другога корпуса, з якім прайшоў увесь баявы шлях. Нейкі час корпус размяшчаўся ў Палестыне. Там разьбяр стварыў барэльефы 3-й і 4-й стацый пакут Хрыстовых на Vita Dolorosa ў Ерусаліме (кальварыі па дарозе на Галгофу). Гэта быў дарунак ад Войска Польскага. Невядома, ці захаваліся гэтыя працы да сённяшняга дня. Пасля вайны Т.Зялінскі жыў у Англіі, дзе і памёр у 1994 годзе, праз некалькі месяцаў пасля наведвання Польшчы.

Падрабязнасці стварэння абраза Маці Божай Казельскай успамінае ў адной з публікацый ксёндз Здзіслаў Пяшкоўскі, былы вязень Казельска: "... Памятаю, што духоўнымі стваральнікамі абраза былі паручнік Тадэвуш Бірэцкі і вядомы віленскі журналіст Валерыян Харкевіч. Вырашылі стварыць новы абраз, але каб у ім спалучаліся рысы двух вядомых на ўсходзе Польшчы цудадзейных абразоў: Найсвяцейшай Марыі Панны Вострабрамскай і Маці Божай Жыровіцкай з дзіцяткам. Пашкоджаная фрэска апошняга знаходзілася на сцяне манастыра ў Казельску, дзе трымалі вязняў. Знайшлі дошку з даўняга іканастаса, якой цяпер бальшавікі накрывалі бочкі з селядцамі. Дошку пагабляваў і распілаваў на дзьве часткі генерал Вацлаў Пшэздзецкі. Бракавала праекта і фарбаў. Паручнік Бірэцкі прапанаваў стварыць каронны абраз, але сам выканаць праект не мог. Ён нікога не запытаўся і звярнуўся да Мікалая Арцішэўскага, які выдаваў сябе за капітана і быў вядомы на ўвесь лагер як цудоўны карыкатурыст і вытворца карт для гульні. Паводле метрыкі быў праваслаўным, але на самай справе атэістам і бальшавіцкім агентам, таму для яго такая змова была непажаданай. Выкручваўся як мог, але потым саступіў такі Бірэцкаму і зрабіў два эскізы. Паводле іх была выканана разьба. Таямніцы Арцішэўскі не выдаў.

Паручнік Тадэвуш Зялінскі выканаў цудоўны па ўзроўню абраз-барэльеф, творча ўзбагаціўшы эскізы. Рукі Мадоны ўдасканаліў паручнік Генрык Патоцкі...

Абраз-барэльеф пасля "амністыі" знаходзіўся ў Маскве, пазней – у капліцы штаба арміі, з якой вандраваў па трох частках свету. Дзякуючы сябрам рэлігійна-рыцарскага гуртка "Marianum", у сваім трыумфальным паходзе святыня затрымалася ў Ерусаліме, дзе ў 1943 годзе была адпраўлена навенна з нагоды свята Беззаганнага зачацця Марыі Панны.

Першы раз афіцыйна, урачыста ў палявым алтары, убачылі мы "палоннікі" аблічча Маці Божай Казельскай, будучай патронкі Другога корпуса Войска Польскага, 26 жніўня 1941 года ў Гразоўцу, каля Вологды. Імшу адпраўляў ксёндз палкоўнік Францішак Тычкоўскі. У імшы ўдзельнічаў генерал Уладзіслаў Андэрс, высокі, худы, хваравіты, пасля двух гадоў няволі і раненняў, атрыманых у вераснёўскіх баях 1939 года.

Скончыўся час нелегальнага існавання абраза, які хавалі да гэтага як драўляную аснову валізкі. Маці Божая Казельская выйшла на волю. Сталі і мы зноў вольнымі людзьмі, жаўнерамі Рэчы Паспалітай Польскай, а не вязнямі бальшавікоў.

Пераможная патронка II корпуса заўсёды спадарожнічала нашаму войску. Захоўвалася ў штабе генерала Андэрса. Перад абразом была адпраўлена імша палявым біскупам Юзафам Гаўлінам напярэдадні бітвы пад Монтэ-Касіна. Абраз заставаўся з жаўнерамі аж да мабілізацыі ў Англіі. Потым быў змешчаны ў касцёле Святога Андрэя Баболі...

*Архіў*

*У Каўнаскім акруговым архіве зберагаецца справа “Ведамасць аб здарэннях па Новааляксадраўскаму павету за 1892 год”. Гэта справа складаецца з данясенняў паліцэйскіх чыноў розных валасцей павета аб тым, што адбылося на іх тэрыторыях. Фіксаваліся выпадкі розных злачынстваў: крадзяжоў, рабункаў, забойстваў, а таксама пажараў, стыхійных бедстваў. Са справы можна ўявіць крымінагенную сітуацыю ў павеце, а таксама асобных валасцях ці мястэчках, скласці ўяўленне аб спецыфічных рысах тагачасных злачынстваў.*

*Увазе чытача прапануем выбарку здарэнняў толькі па мястэчку Браслаў. Зафіксавана толькі 7 здарэнняў, частка іх адбылася ў час кірмашоў і прытым злачынствы былі здзейснены гасцямі мястэчка. Не адзначана ў Браславе выпадкаў краджэжу коней – з'явы вельмі частай у павеце. Выглядае, што Браслаў, у якім на той час налічвалася каля тысячы жыхароў, быў спакойным мястэчкам. Аховай грамадскага парадку тут і ў навакольных тэрыторыях займаўся прыстаў 3-га стана (стан – паліцэйска-тэрытарыяльная адзінка, на якія падзяляўся павет – рэд.), якому падпарадкоўваўся паліцэйскі ўраднік.*

# Браслаў. 1892 год. Хроніка здарэнняў

М. В. Д.
ПРИСТАВЪ
3-го стана
м. Браславъ

* Пристав 3 стана рапортом от 7 июля за № 1242 донёс, что в полдень 6 июля сын крестьянина Ивана Петрова Гирсы, проживающего в м.Браславе, Иван отправился купаться в озеро Новята, где и утонул, дознание передано товарищу прокурора.

* Пристав 3 стана рапортом от 10 января за № 85 донёс, что днём 7 января поэтной еврей Браславский мещанин Зелка Абрамов Дейч, находившийся на работе у крестьянина Браславской волости застенка Меришки Ивана Викентьева Лейши, уворовал карманные серебряные часы с серебряной цепочкой стоимостью 25 руб., дознание с обвиняемым Дейчем передано в Мировой суд 1 участка.

* Пристав 3 стана рапортом от 4 февраля за № 248 донёс, что 3 февраля в ярморочный день в м.Браслав Видзовский татарин барышник дворянин Мустаф Якубовский на улице встретившись с знакомым крестьянином Опсовской волости Викентием Степановым Лисовским просил одолжить ему 5 коп., когда Лисовский вынул из кармана кошелёк с деньгами и вынул из онаго лежавшие на верху кредитные билеты 18 руб. и держал таковые в руке, то в это время Якубовский выхватил из рук у Лисовского 18 руб. и скрылся в толпе народа. Дознание передано судебному следователю 2 участка.

* Пристав 3 стана рапортом от 24 апреля за № 714 донёс, что 23 февраля в ярморочный день в м.Браславе крестьянин Браславской волости дер.Ельно Осип Михайлов Романчик в числе прочей публики стоял и смотрел как катаются на карусели, к нему подошёл раскольник крестьянин Липковской волости Пётр Никитин Саропятов и пытался сорвать с Романова часы, но последний успел удержать цепочку часов и Саропятов сорвал лишь металлическую цепочку, но тут же был задержан, дознание вместе с обвиняемым Саропятовым передано судебному следоватлю 2 участка.

* Пристав 3 стана рапортом от 26мая за № 876 донёс, что у дворянина Ивана Иванова Реутта, ночевавшего в м.Браславе в корчме еврея Хаима Банка уворованы кошелёк с деньгами 49 руб. и два кольца, одно серебряное, а другое золотое, в краже этой Реутт подозревает шинкарку Банка крестьянку Ольгу Лукьянец, дознание передано мировому суду 4 участка, к розыску похищенных вещей приняты меры.

* Пристав 3 стана рапортом от 3 июня за № 984 донёс, что 25 мая через Браславскую волость полосою прошёл град, которым сильно повреждены озимые посевы в д.Озеравцах, Укольске и Зимирке на пространстве 69 десятин, убытку нанесено на сумму до 687 руб., а 31 мая пронёсся сильный ураган, которым разорены до основания сарай в им.Савонарах помещика Борткевича, в м.Браслав снесены крыша и повреждены стены еврейской бани, а также еврейской школы и сорвана крыша с дома священника Василевского, убытку нанесено на сумму до 620 руб., а также поломано много леса в им.Бельмонты.

* Пристав 3 стана рапортом от 16июня за № 1058 донёс, что 11 июня в 9 часов утра скоропостижно умер домовладелец м.Браслава житель гмины Евбайно Ломжинской губ. Ицык Гутштейн, дознание передано товарищу прокурора.

У музеі Друйскай СШ зберагаецца цікавы экспанат – фальшывая царская залатая дзесятка (манета наміналам 10 рублёў 1900 г.). Такія манеты былі ў абарачэнні да І-й сусветнай вайны, але цаніліся і потым з прычыны высокай якасці золата. Найбольш заможныя сяляне і месчачкоўцы стараліся захоўваць свае зберажэнні ў гэтай манеце, а таксама манеце наміналам 5 рублёў. На Браслаўшчыне было знойдзена некалькі скарбаў царскіх залатых манет. Падрабляць іх сталі яшчэ ў пачатковы перыяд абарачэння. Але друйскі экзэмпляр мае іншую гісторыю. Пра яе расказаў кіраўнік музея Міхаіл Ставіцкі.

У Друі жыў Альберт Рудакоўскі, чалавек майстравы. Працаваў на млыне, чыгунцы, у вучылішчы. Пры сваёй хаце на вуліцы Першамайскай (недалёка ад царквы) меў майстэрню, кавальскае абсталяванне. Быў знаёмы з ліцейнай справай, мог нават адліваць вінты для лодачных рухавікоў. Сям'я Рудакоўскага, якая складалася з 4 дзяцей жыла даволі бедна. Напэўна гэта стала асноўнай прычынай, што бацька вырашыў вырабляць фальшывыя залатыя манеты. Былі 70-я гады ХХ ст. У гэтыя часы сын А.Рудакоўскага, таксама Альберт, вучыўся ў Рызе ў ВНУ. Бацька вырабляў манеты, якія даставяліся ў Рыгу ў бідончыку з-пад малака. Рудакоўскі-малодшы збываў “тавар” на рыжскіх “талкучках”. Тут аднаго разу папаўся. Бацька і сын былі асуджаны . Старэйшы Рудакоўскі ў няволі захварэў на сухоты і неўзабаве пасля вяртання ў Друю памёр. Фальшывае золата не прынесла шчасця ні яму ні сям'і. Гісторыя, якая атрымала ў свой час такі гучны розгалас забылася. Манета знойдзеная вучаніцай Машай Лінкевіч непадалёку ад хаты Рудакоўскіх зноў нагадала пра яе.





Карціна «Юр"я». 2003 г.

Прозвішча мінскага мастака Уладзіміра Кандрусевіча даўно знаёма ўважліваму чытачу выдання "Павет", на старонках якога неаднойчы змяшчалася інфармацыя пра працы майстра, звязаныя з гісторыяй Браслаўшчыны, а таксама іх адлюстраванні. Найбольш вядомы партрэт знакамітага браслаўскага лекара Станіслава Нарбута. Гэта карціна экспанавалася ў Мінску, была цэнтрам кампазіцыі на выставе, прысвечанай 150-годдзю з дня нараджэння С.Нарбута, рэпрадуцыравалася на адмысловай юбілейнай паштоўцы, змяшчалася ў розных выданнях. У.Кандрусевіч з'яўляецца аўтарам карціны вядомага браслаўскага гісторыка і краязнаўцы Отана Гедэмана, імя якога носіць Браслаўскае краязнаўчае таварыства.

# УНІСОН

# ⅄НІСОН

Пераважна людзям прысвечана браслаўская выстава мастака, якая была ўрачыста адкрыта 23 красавіка ў Музеі традыцыйнай культуры. Сам У.Кандрусевіч так вызначыў крэда выставы: "Выстава "Унісон" прысвечана людзям, якія з усёй душой займаюцца сваёй справай, робячы ўнёсак у працяг і паляпшэнне жыцця. Шматлікія галасы, знітаваныя агульнай ідэяй, зліваюцца ва ўнісоне ў адвечную песню, гімн жыццю і роднаму краю".

На адкрыццё выставы прыехаў сам аўтар, яго родныя, сабраліся шматлікія браслаўскія сябры мастака, аматары жывапісу. Дата адкрыцця не была выпадковай – яе прапанаваў У.Кандрусевіч. 23 красавіка – дзень веснавога свята Юр'я. Такую ж назву мае адна з карцін мастака.

Імпрэза атрымалася вельмі цікавай, запомнілася цёплай сардэчнай атмасферай. На яе пачатку выступіла харавая група моладзі каталіцкай парафіі пад кіраўніцтвам Наталлі Пілат, меладычныя спевы якой вельмі стасаваліся з жывапісам.

Уладзімір Кандрусевіч – мастак вельмі малады. Нарадзіўся ў 1976 годзе. Вядомым беларускім мастаком быў яго дзед – Натан Воранаў, жывапісам займаецца брат Павел. Бацькам мастака з'яўляецца таленавіты сучасны кампазітар Уладзімір Кандрусевіч. Адукацыю мастак атрымаў у спецыялізаваным ліцэі і ў Акадэміі мастацтваў на аддзяленні манументальнага мастацтва. З 1999 года з'яўляецца сябрам Саюза мастакоў Беларусі. Вывучаў мастацтва фрэскі падчас стажыроўкі ў Італіі. Манументальнае мастацтва – гэта такі жанр, у якім можна працаваць, калі ёсць заказы. У.Кандрусевіч выконваў роспісы ў Швейцарыі, Германіі. У Беларусі ён стварыў фрэскі для касцёла Святога Андрэя Баболі ў Полацку. Мастак марыць і надалей працаваць у сваім любімым напрамку, але рынак заказаў у нашай краіне невялікі. Станковы жывапіс, у якім таксама плённа працуе У.Кандрусевіч, не настолькі звязаны з заказчыкам.

З Браслаўшчынай мастак упершыню пазнаёміўся падчас вучобы ў Акадэміі мастацтваў, калі разам з калегамі праходзіў практыку ў прыгожым наваколлі Слабодкі. Пазней адбылося больш грунтоўнае знаёмства. Мастак знайшоў сабе жытло пад Браславам і на ровары прадпрымаў шэраг вандровак па Браслаўшчыне. Наведваў маляўнічыя мясціны, знаёміўся з гістарычнымі, архітэктурнымі помнікамі, з людзьмі. І закахаўся ў Браслаўшчыну, прычым не толькі ў яе краявіды, але і ў людзей, гісторыю.

Ідэя персанальнай выставы ў Браславе нарадзілася нібыта сама сабой. Пасля некалькіх гадоў працы задуманае ажыццявілася.



В аўтульнай выставачнай зале ішла гаворка пра мастака, яго творчасць. Аўтар выставы азнаёміў прысутных з уласнай інтэрпрэтацыяй жывапісных палотнаў. Усе прамаўленні былі цёплымі і шчырымі, а ўвага гледачоў непадробнай.

Значная частка палотнаў, прадстаўленых на выставе, сюжэтна звязана з Браслаўшчынай. Гэта карціны: "Святочны спеў", "Да першай камуніі", "У грушавым садзе", "Юр'я", "Зязюльчыны слёзкі". Адмыслова да выставы мастак стварыў дрыварыт "Браслаў", на якім у выглядзе старажытнай гравюры паўстала старая частка горада.

Палотны У.Кандрусевіча літаральна выпраменьваюць святло, добрую станоўчую энергетыку. Гэта адразу адчулі першыя наведвальнікі. Вось фрагмент аднаго з першых запісаў у кнізе водгукаў: "...Усё такое светлае, добрае, цёплае, – фарбы, твары на палотнах, уся атмасфера. Гэтыя святло, цяпло і дабрыню ўношу з сабой...".

Напрыканцы імпрэзы У.Кандрусевіч падзякаваў усім, хто прыйшоў на выставу, вельмі важную для мастака. Ён да таго меў выставы ў Мінску, Германіі, Швейцарыі, але браслаўская выстава – першая па сваёй грунтоўнасці.

Быў і сюрпрыз. Для краязнаўчага таварыства імя О.Гедэмана мастак падараваў партрэт, напісаны ў 2002 г. Напэўна, ніхто з сяброў таварыства не будзе супраць лічыць У.Кандрусевіча ганаровым сябрам.

З выставай Уладзіміра Кандрусевіча "Унісон" можна будзе азнаёміцца да канца чэрвеня.

Вітаўт Ермалёнак

У 70-z гады XIX стагоддзя па кожнай воласці Расійскай імперыі па праграме Рускага Геаграфічнага таварыства праводзілася іх падрабязнае апісанне. У беларускіх губернях гэтую працу праводзіла Паўночна-Заходняе аддзяленне Геаграфічнага таварыства. Апісанне праводзілася па анкеце, складзенай з 60 пытанняў. Змест працы па кожнай воласці значна адрозніваўся: усё залежыла ад яе выканаўцы. Чым больш адказна ён ставіўся да свайго даручэння, тым цікавей атрымлівалася. У асноўным гэтай дзейнасцю займаліся школьныя настаўнікі.

Па Перабродскай воласці адказы на анкету былі дасланы настаўнікам Перабродзкага народнага вучылішча Паўлам Літвіноўскім, які дастаткова адказна выканаў даручэнне. Цэнтр воласці – мястэчка Пераброддзе, па прывілеях караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта II Аўгуста атрымала Магдэбургскае права і статут горада ў 1571 годзе. Гэты прывілей быў пацверджаны каралём Станіславам Аўгустам у 1792 г. Царскім Сенатам 1820 г., але неўзабаве ўсялякія правы былі скасаваны. У 1866 годзе ў мястэчку было 66 хат і пражывала 348 жыхароў (253 праваслаўных, 72 католікі, 23 іудзеі). Праз 20 гадоў у мястэчку пражывала ўжо 446 чалавек. Сама воласць працягнулася больш чым на 25 кіламетраў з захада на ўсход ад вёскі

Пчалаводства не развіта, мёд і воск на прадаюць. Гусей разводзяць толькі стараверы, мяса на продаж, пух і пёры – сабе. Паляваннем ніхто не займаецца, таму мясцовае насельніцтва вельмі церпіць ад ваўкоў. Мясцовыя цесляры могуць зрабіць толькі простую хату, таму паны выпісваюць майстроў з расійскіх губерняў. Печнікоў таксама вельмі мала, бо большасць хат не маюць коміна, а простыя печы ў курных хатах сяляне лепяць з гліны самі. Мова ў мясцовых жыхароў беларуская. Толькі стараверы размаўляюць па-руску.

У бедных сялян хата з аднага пакоя, у багатых з двух, трох, праз перагародку – вараўня. Тут жа да хаты прыбудаваны хлявы. У хляве адно маленькае ваконца на выпадак якога няшчасця, каб у хаце было чуваць, што робіцца ў хлеве. Асабліва мясцовыя жыхары церпяць ад злодзеяў. У хатах адно, два маленькіх ваконцы. Асноўныя прылады – драўляная саха ды барана, якая сплятаецца з прутоў. Павел Літвіноўскі, акрамя апісання гаспадаркі, запісаў і два паданні ад мясцовых жыхароў. Адно з іх датычыць насыпаў ля вёскі Укля і Дзедзіна. У адным з іх гаворыцца, што некалі была вайна паміж палякамі і шведамі. Польскім войскам кіраваў Сабескі, а шведскім Рапрык. Яны стаялі па розныя бакі возера, а потым мясцовыя жыхары перавезлі палякаў праз брод і яны выйгралі бітву. За тое польскі кароль даў ім права "вольнага горада". Раней мястэчка было значна большым, іша аўтар анкеты Літвіноўскі. Яно, па ўспамінах мясцовых жыхароў, было расцягнуўшыся на 5 вёрст па адзін бок і на 5 па другі.

# ПЕРАБРОДСКАЯ ВОЛАСЦЬ У 1873 ГОДЗЕ

Мацешы (сучасны Браслаўскі раён) да в.Кублішчына і в.Чэпукоў на поўначы ад вёскі Храброва да в.Снегі на поўдні. У той час у Перабродскую воласць уваходзіла Іказнь (473 жыхары), Падзявы 180 жыхароў, Волкаўшчына 174 жыхары, Ніўнікі 179 жыхароў і інш. Усяго ў воласці пражывала 4289 чалавек. Сялянам належала 9636 дзесяцін зямлі, дзяржаве 2313 дзесяцін, вельмі мала было прыватнаўласніцкай зямлі, гэта тлумачыцца канфіскацыяй пасля паўстанняў 1830-1831, 1863-1864 гадоў, землі шляхты паўстанцаў перашлі ў дзяржаўны фонд.

Па-ранейшаму ў нашай мясцовасці пераважала трохполлле. На ўгнаенне 1 дзесяціны ішло 60 вазоў гною ў лепшых гаспадарках, у бедных – значна менш. Асноўныя пасяўныя культуры: жыта, ячмень, авёс. Паны сеялі ад 50 да 150 пур збожжа (пур – 50 кг) сяляне ад 10 да 40 пур. Ураджайнасць – 5 пур на адзін пур пасеваў. Лішкі збожжа сяляне вязуць у Друю, дзе яго скупляюць яўрэі, якія потым перапрадаюць яго ў Дзінабургу. Ураджаі бываюць нядрэнныя, але многія гаспадары церпяць ад злодзеяў. Паравых і вадзяных млыноў у Перабродскай воласці не было, таму малолі на ручных жорнах або вазілі ў панскія двары, ...



Герб Пераброддзя 1792 г.

У ім было 200 хат. Падчас вайны на адным баку возера жыхары былі знішчаны. Але на тым месцы зараз палі і людзі, калі аруць, знаходзяць рэшткі падмуркаў, цэглу, карэнні садоў, яблынаў, грушаў, вішняў. Аб гэтым сведчаць і могілкі, якія працягнуліся на 5 вёрст, заросшыя вялікім лесам з каменнымі крыжамі і падмуркамі царквы.

У дадатак да апісання Перабродскай воласці прапануем азнаёміцца са спісам жыхароў ...

... значныя сады, якія здавалі ў арэнду старaверам. Яны і збывалі ураджай яблыкаў і груш у Вільні, Рызе, Пецярбургу, ... іаўгаўпілс), Друі. Кошт пуда (16 кг) ... – 2 ...

... большай часткай ...

Кошт сасны для пабудовы 1 руб. ... і ягады мясцовыя жыхары для продажу не збіраюць, ... так як лясы знаходзяцца ў прыватных уладаннях.

*Кароў кормяць саломай і сенам, коней – сенам і ...* Беркавец сена каштуе 23 рублі. Цана 1 ваза саломы 1 руб, а ... кулявы – 3 рублі. Свіней кармілі мякінай – быдла на продаж мясам не гадуюць. *Масла сяляне прадаюць за 1 пуд 10 руб., сыр за 1 ... (0,7 л.) – 10 кап. У воласці на 1 гаспадарку прыходзіцца 1 конь, на 3 душы 1 карова, дробнай жывёлы па дзве на 1 душу. Коней сяляне Перабродскай воласці купляюць на кірмашах у Відзах, або ў Друі коштам ад 15 да 40 рублёў. Некаторыя сяляне гадуюць авечак, якіх* стрыгуць два разы ў год. Кошт воўны 23 капейкі за фунт.

Рыбалоўства як промысел існуе толькі ў Пераброддзі і Забалоцці. Фунт рыбы каштуе 7-10 капеек. Рыба як і зараз: лешч, шчупак, акунь, плотка, снетка і інш. Ловяць невадамі, бучамі. На адзін невад 10 пастаянных рыбакоў, а яшчэ 30 памочнікаў. Прадавалі рыбу ў Друі, Дзінабургу, Вільні, Пецярбургу, Варшаве, Рызе.

... Антон ... Захаравіч ... вядомых яшчэ 5 ...

# 20 красавіка – Радаўніца

У гэты дзень адбываецца памінанне памерлых. Людзі наведваюць могілкі каб ушанаваць памяць продкаў. На могілках Браслаўшчыны ёсць шмат пахаванняў людзей заслужаных, якія пакінулі значны след у гісторыі рэгіёна. Друкуем фотаздымкі некаторых з іх, а ў будучым мяркуем звяртацца да гэтай тэмы пастаянна.



*Каталіцкія могілкі ў Друі.* Пахаванне **Эдуарда Саснора-Сасноўскага (1889-1966)**, поўнага георгіеўскага кавалера. Поўныя георгіеўскія кавалеры – гэта героі першай сусветнай вайны, людзі, якія праявілі выключны гераізм. Пры савецкай уладзе не прынята было хваліцца заслугамі ў часы "імперыялістычнай". Поўны георгіеўскі кавалер Э.Саснора-Сасноўскі пражыў сціплае жыццё і памёр безвестным. Нажаль, назаўсёды страчаны і эпізоды вайны аб якіх ён мог бы расказаць. Памятную дошку з фотаздымкам, на якім бачны ўсе 4 георгіеўскія крыжы, сваякі прымацавалі да помніка значна пазней. Больш падрабязныя матэрыялы пра героя першай сусветнай – у наступным нумары.



*Старыя гарадскія могілкі ў Браславе.* Пахаванне святара **Уладзіміра Васілеўскага (1894-1967).** Быў браслаўскім святаром у 1867-1912 гадах. Найбольш важкім вынікам яго працы стала будаўніцтва новага каменнага храма. У памяці людзей застаўся шчырым, сумленным чалавекам.



*Старыя гарадскія могілкі ў Браславе.* Пахаванне ксяндза **Яна Завістоўскага(1894-1967).** Быў браслаўскім пробашчам у 1958 – 67 гадах. Прайшоў праз сталінскія лагеры, дзе падарваў здароўе. Быў адзіным святаром на тэрыторыі, дзе існавала 14 парафій з колькасцю 35 тыс.вернікаў. Аддана служыў людзям да апошняга імгнення жыцця.



*Старыя гарадскія могілкі ў Браславе.* Пахаванне **Канстанціна Юхневіча (1896-1971).** Побач знаходзіцца помнік яго жонкі. Гэтыя два помнікі адзіныя, якія маюць беларускія тэксты.

К.Юхневіч – вядомы беларускі дзеяч, дэлегат сейма, вышэйшага заканадаўчага органа Польскай дзяржавы. Чалавек вялікіх арганізатарскіх здольнасцяў, ён не ўпісаўся ў савецкую палітычную сістэму.

*Каталіцкія могілкі ў Слабодцы.* Пахаванне **Фердынанда Леўшы (1909-1986)**, таленавітага лекара, хірурга, вялікага патрыёта Браслаўшчыны. Наваколле Слабодкі – родавыя мясціны сям"і, прадстаўнікі якой адыгравалі значную ролю ў сваім рэгіёне.



## Выдавецкія навіны

Праз Юзафа Далецкага (Жэшуў, Польшча) атрыманы чарговы красавіцкі нумар белютэня "Ліст Браслаўскі". Гэты нумар цалкам прысвечаны гісторыі помніка Юзафу Пілсудскаму ў Браславе. Помнік быў урачыста адкрыты ў 1936 г. бюст маршалка выканаў таленавіты скульптар Альфонс Карны (у Беластоку ёсць музей гэтага скульптара). З надыходам савецкай улады помнік быў схаваны мясцовымі жыхарамі і некалькі гадоў таму знойдзены ў Заборных Гумнах.

Пра гэта пісалася ў першым нумары выдання "Павет". Цяпер бюст знаходзіцца ў Польшчы. 5 чэрвеня адбудзецца яго ўрачыстая перадача ў музей сям'і Юзафа Пілсудскага, які знаходзіцца ў горадзе Сулеювек.Таблічка пад экспанатам будзе змяшчаць інфармацыю, што бюст паходзіць з Браслава. "Ліст Браслаўскі" друкуе ўспаміны пра ўрачыстасці адкрыцця помніка ў Браславе, рэпартажы з тагачаных польскіх газет. Матэрыялы настолькі цікавыя, што мы плануем звярнуцца да іх у адным з бліжэйшых нумароў.




Касцёл Яна Хрысціцеля ў Опсе

## Навіны з Мёршчыны

### РЭХА ВАЙНЫ

Пад такой назвай ў гістарычным музеі Мёрскай СШ № 3 адкрылася выстава, прысвечаная 60-й гадавіне вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. З самага пачатку існавання музея ў ім былі створаны два раздзелы, прысвечаныя вайне: "У гады другой сусветнай" і "Вызваленне Мёраў". У іх багата прадстаўлены матэрыялы аб жорсткім акупацыйным рэжыме, партызанскім руху ў нашым краі, інфармацыя аб воінах-земляках – удзельніках вайны. Але фонды музея несупынна папаўняюцца, таму, відавочна, наспела неабходнасць паказаць хоць частку сабраных экспанатаў, якія не прадстаўлены ў асноўнай экспазіцыі, але павінны выклікаць цікавасць ў наведвальнікаў. Мы засяродзілі ўвагу перш за ўсё на новых дакументах, рэштках зброі і амуніцыі. Так, наведвальнікі ўбачаць кавалкі абшыўкі фюзеляжа нямецкага самалёта Фоке-Вульф, збітага ля вёскі Сташулі, прыцэл для скідвання бомбаў Юнкерса-88, упаўшага ля вёскі Пестуны, выдатнай захаванасці нямецкі процівагаз, рэшткі кулямёта МГ-36, знойдзенага на месцы бою ля вёскі Станулева, медальёны нямецкіх салдат і нават ранец з цялячай скуры. На выставе змешчаны і рэшткі вядомага кулямёта "Максім", батальённага мінамёта, вінтоўкі Мосіна, якія былі на ўзбраенні Чырвонай Арміі. У экспазіцыі знаходзяцца і новыя дакументы ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны І.І Лучыновіча, П.М.Пятроўскага, А.Д.Мішуты, М.А.Скрыпкіна і інш.

Запрашаем наведаць выставу як школьнікаў, так і усіх аматараў ваеннай гісторыі.

* * *

### УНІКАЛЬНАЯ ЗНАХОДКА

Археалагічны аддзел музея налічвае тысячы разнастайных прылад працы старажытнагх жыхароў нашага краю ў каменным веку. Гэта сякеры, скрабкі, разцы, наканечнікі стрэл і г.д. Але знаходка , якую перадаў у музей вучань 4 класа Станкевіч Юра сапраўды з'яўляецца ўнікальнай .Гэта серп, зроблены з крэмня, знойдзены дзедам хлопчыка – Раменьчыкам Уладзімірам Аляксеевічам у райцэнтры Любань Мінскай вобласці. На Мёршчыне такі серп знайсці практычна немагчыма, таму што ў нас няма выкапняў крэмня, ды і земляробства пачало развівацца значна пазней, ўжо ў бронзавым веку. Папярэдняе вывучэнне знаходкі паказала, што ёй 5 тысяч гадоў, адносіцца да эпохі неаліту, калі на поўдні Беларусі людзі пачалі займацца земляробствам. Археолагі ўмоўна называюць плямёны, якія жылі ў той час, дзе зараз горад Любань, плямёнамі днепра-данецкай культуры. Серп уяўляе сабою крамянёвую пласціну даўжынёю 12 см, шырыня – 3 см. Крэмень выдана апрацаваны, па перыметру ляза і спінкі выдатна захаваліся дробныя сколы – рэтуш – так яго вастрылі. Для замацавання драўлянай ручкі была зроблена выемка. Серп адносіцца да тыпу вялікіх, такімі жалі жыта, а мінімальныя памеры каменных сярпоў 5-6 см. А найбольш старажытныя рабілі з маленькіх крамянёвых пласцін, замацаваных ў драўлянай ручцы. У нашым раёне найбольш старажытныя сярпы знойдзены падчас раскопак гарадзішча Пруднікі, яны з жалеза і ім 2 тысячы гадоў.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)